

# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

*Максім Багдановіч (1891-1991)*

№ 388 Сакавік 1992
Год. выд. XLI

BIELARUS / BELARUSAN Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.50

## 25-га САКАВІКА — АСНОВА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ




*Карта БНР у яе этнаграфічных межах*

Вось ужо 74-ты год, 74-вясна, як мы — нашыя дзяды, бацькі, мы самыя, нашыя дзеці і ўнукі сьвяткуем угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвяткуем, бо верым у ідэю якая была сфармуляваная нашымі дзяржаўнымі мужамі й зарэгістраваная ў пастулятах гэтай незалежнасьці — ва Устаўных Граматах. Мы з пашанай і настойліва несьлі, перахоўвалі і гадавалі гэтую ідэю. У сьвятле восеньскіх падзеяў мінулага году, ідэя гэтая набыла больш ясную, сьветлую ахварбоўку — прыняла колер надзеі, зьдзейсьненьня. Незалежнасьць сталася больш рэальнай.

Які-ж цяпер стан? Ёсьць дзьве праклямацыі Незалежнасьці: адна абвешчаная 25 Сакавіка 1918 году, другая — 25-га Жніўня 1991 году. Ёсьць тры дакумэнты, фактычна зборы дакумэнтаў, якімі гэтыянезалежнасьці былі падцьверджаныя й замагаваныя, а менавіта: Тры Устаўныя граматы Беларускай Народнай Рэспублікі, Праэкт Дэклярацыі прапанаваны Беларускім Народным Фронтам і Канстытуцыя (Асноўны закон) Рэспублікі Беларусь.

А што-ж далей, шмат хто лягічна спытае?

І, каб ведаць куды кіруецца нашая краіна і чаго можна спадзявацца, неабходна прастудыяваць гэтыя дакумэнты.

Устаўныя Граматы, асабліва Другая Устаўная Грамата, дзе ў 8-ёх пунктах пастанаўляецца аб «дзяржаўным усторі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў», якія былі канчальна зацьверджаныя 25-га Сакавіка 3-яй Устаўной Граматай — кароткія але вельмі станоўчыя акты, што выказалі асноўныя формы і структуру дзяржаўнасьці.

У Праэкце Дэклярацыі аб Дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі прапанавай БНФ гэтаксама вельмі станоўча й коратка падцьверджваецца незалежнасьць Беларусі на аснове 3-яй Устаўной Граматы БНР і фармулююцца свае азначэньні незалежнасьці.

Канстытуцыя (Аснаўны Закон) Рэспублікі Беларусь, прапанаваная 11-га лістапада 1991 году — абшырны, дэталёвы дакумэнт, які апіраецца на «шматгадовую гісторыю разьвіцьця беларускай дзяржаўнасьці» і аддае «належнае пошукам справядлівага грамадзкага ладу на старажытнай зямлі Беларусаў, якія знайшлі адлюстраваньне ў Статутах Вялікага Кніства Літоўскага, Статутных Граматах БНР», і г.д. выказаў І. Асновы канстытуцыйнага ладу, ІІ. Асноўныя правы, свабоды й абавязкі грамадзтва, ІІІ. Законы выбарчай сыстэмы й рэфэрэндум, IV. Заканадаўчы, выканаўчыя й судовыя улады і г.д.

Чым-жа падобныя усе названыя дакумэнты і чым яны розьняцца, на наш пагляд.

Амаль усе пункты закранутыя ў трох Устаўных Граматах БНФ адлюстраваныя ў праэктах Дакляраціі Незалежнасьці і ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Крыху, праўда, ня выразнае палажэньне аб прыватнай уласнасьці і тут назіраецца разыходжаньне, асабліва, што тычыцца ўласнасьці на зямлю. Паводня 7-га пункту Другой Устаўной Граматы, «Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць». У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь зазначаецца толькі, што «Дзяржава гарантуе кожнаму права ўласнасьці».

Важна зьвярнуць, аднак асаблівую ўвагу на дзьве справы, і то вельмі важныя, радыкальныя, якія мы знаходзім ў 3-яй Устаўной Грамаце і якіх няма ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а менавіта:

«Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў васобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі. **На моцы гэтага трацяць сілу ўсе дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларускі народ трактат у Берась-ці...»** — інакш кажучы, парываюцца дзяржаўныя сувязі з Масквой.

І другое, **«Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ,** а ласьне Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губерняў, заселеных беларусамі» — усю беларускую этнаграфічную тэрыторыю. Аб гэтым вельмі важных пунктах дакумэнт 1991 году не згадвае!

Аднак важнае таксама ня толькі якія пункты ўключаныя ў Канстытуцыю, але як гэтыя законы і ўмовы дагледжаныя Урадам Рэспублікі Беларусь, які, паводля канстытуцыі, зьяўляецца «вышэйшым выканаўчым і распарадчым ворганам Рэспублікі Беларусь» і мае даглядаць як гэтыя законы выконваюцца.

Што-ж назіраецца у рэчаістасьці? Расейская мова пануе ва ўрадавых колах, дазвол на прыезд ў Беларусь усё яшчэ трэба атрымваць з Консуляту Расейскай Фэдэрацыі, ды галоўнае, рэфэрэндум, якія намагаецца правесьці апазіцыя на чале з Народным Фронтам, і які прадбачыцца па канстытуцыі, — гамуецца.

Вось-жа падсумоўваючы ўсё сказанае, нашае становішча пры цяперашнім стане рэчаў, гэткае:

Мы салідарызуемся з нашым народам, мы з радасьцяй вітаем і можам адзначаць Незалежнасьць 25-га жніўня, як важную зьяву ў нашай гісторыі, але мы **сьвяткуем,** як аснову Беларускай Дзяржаўнасьці **25-га Сакавіка — Дзень Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**Зора Кіпель**

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

### ПРЭЗЫДЫЮМ

**САКАВІК 1992 г.**

### ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ

З году ў год, праз амаль тры чвэрці стагодзьдзя Беларусы адзначалі й ўшаноўвалі **Акт 25-га Сакавіка 1918 г.** як найбольшае нашае Нацыянальнае Сьвята.

Сёлета гэтая вялікая гістарычная дата адзначаецца асабліва ўрачыста й узварушваюча, бо нашыя лятуценьні ды пажаданьні, якія мы выказвалі ў прывітаньнях на папярэдніх сьвятkваньнях пачынаюць зьдзяйсьняцца. Беларусь стаіць на шляху дзяржаўнага адраджэньня — летась была падьверджаная Парлямэнтам сувэрэннасьць і незалежнасьць, што на сяньня зьяўляецца «дэ-юрэ» й «дэ-факто».

Аднак разбудова дзяржаўнае незалежнасьці вымагае відавочна больш высілкаў і натугаў як само прагалошаньне. Вельмі непакоіць і турбуе слабы прагрэс «беларусізацыі» й эканамічная нястойкасьць. Апрача пільнае праграмы выхаду Беларусі з эканамічнага крызысу і ўмацаваньня беларускае мовы як дзяржаўнае, нам патрэбныя гэтаксама збройныя сілы і ўласная дыплёматычная служба. Перад лідэрамі Беларусі — яшчэ не адно цяжкое заданьне, якое, ўлічваючы недахоп патрэбных рэсурсаў і дасьведчаных кадраў у многіх сэктарах дзяржаўнае адміністрацыі, ня лёгка разьвязаць.

Бязумоўна, на ўсіх узроўнях дзяржаўнае ўлады — ад складу Вярхоўнага Савету да нізавых абласных ды мясцовых адміністрацыйных ворганаў патрэбныя будуць радыкальныя зьмены. Гэтая рэчаіснасьць вымагае новых сілаў й новага падыходу для разьвязкі праблемаў дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі.

Гэтаксама, сьвяткуючы Дзень Незалежнасьці — 25-га Сакавіка, мы павінны прыпамінаць тых нашых гэрояў, якія сваёю цьвёрдаю вераю, ахвярнасцю й вытрываласьцю клалі падмуркі сяньняшніх гістарычных падзеяў — Каліноўцаў, Случчакоў, Нацдэмаў, ахвяраў Курапатаў, сібірскіх катаргаў і турэмных падвалаў ды нацыянальных ахвяраў другой сусьветнай вайны, якія з гонарам нясьлі наш бел-чырвоны-белы сьцяг. Ды ня ўсім Ім лёс наканаваў дачакацца гэтага жаданага часу Незалежнасьці.

Ад імя Рады БНР шчыра віншую Вас з нашым нацыянальным сьвятам ды жадаю сілы й вытрываласьці ў далейшай працы й ахвярнасьці, каб дачакаца поўнае незалежнасьці й дабрабыту ў нашай дарагой Бацькаўшчыне. ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ.

**Старшыня Рады БНР**
**Др. Язэп Сажыч.**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.



**РЭФЭРЭНДУМ — ПЕРШЫ КРОК У ЗДАБЫЦЬЦІ САПРАЎДНАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ. КАМУНІСТЫЧНАМУ АПАРАТУ НЯ МЕСЦА Ў КІРАЎНІЦТВЕ НОВАЙ ДЗЯРЖАВЫ!**
**Роспуск Вярхоўнага Савету і новыя выбары парлямэнту Беларусі — чародныя жыцьцёва неабходныя крокі для захаваньня жыцьцяздольнасьці рэспублікі як дзяржавы!**

## ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ!

Мы сталі на мяжы жабрацтва. Эканоміка Беларусі зьнішчаецца. Яшчэ два гады таму на рубель выплачанай зарплаты ў Рэспубліцы выраблялася тавараў на 2 рублі, і былі ўсе магчымасьці ўдвая палепшыць жыцьцёвы ўзровень народу. Ужо тады Беларускі Народны Фронд прадбачыў развал Саюзу, крах ягонай гаспадаркі і прапанаваў рашучыя захады, каб ураtаваць беларускую эканоміку. Галоўны спосаб абароны насельніцтва Рэспублікі ад непрадказальнай палітыкі суседніх дзяржаваў — умацаваньне незалежнасьці! Гэта ўласныя грошы, мытная служба, войска... Паводле разьлікаў спецыялістаў, Беларусь, якая мае разьвіты гаспадарчы комплекс, кампактную тэрыторыю, надзвычай выгаднае геаграфічнае становішча, працаздольны і таленавіты народ, магла б за 8 гадоў наблізіцца да ўзроўню жыцьця эўрапейскіх краін.

Аднак два гады Вярхоўны Савет і Ўрад цягнуцца ў хвасьце суседніх дзяржаваў. У выніку Беларусь нясе мільярдныя страты, гіне эканоміка, растуць цэны. Спыняюцца заводы. Неўзабаве пачнуцца масавыя звальненьні працоўных. Нам пагражае эканомічны паралюш, калі ня будзе ні працы, ні тавараў, ні грошай. Вось вынік палітыкі «мы пойдем вслед за Россией»! Куды?!

Тым часам кіраўнічая наменклатура, перасеўшы з кабінэтаў ЦК ў кабінэты Саўміна і Вярхоўнага Савету, праводзіць «дзікую» прыватызацыю, ператвараючы агульнанацыянальнае багацьце ў сваё ўласнае. Гэтае злачынства выклікае абурэньне сумленных людзей. Узрастае напружанасьць, узьнікае пагроза сацыяльнага выбуху.

У гэтых умовах адзінае выйсьце — тэрміновы роспуск наменклатурнага Вярхоўнага Савету. Трэба стварыць новы, прафесійны вышэйшы орган улады і Ўрад народнага даверу, якія пачнуць хутка ажыцьцяўляць праграму выхаду з крызісу. Адпаведная канцэпцыя эканамічнага разьвіцьця Рэспублікі створана ў Апазіцыі БНФ.

Мы прапануем ісьці да роспуску ВС і новых выбараў законным шляхам — шляхам рэферэндуму. Рэферэндум — гэта адзіная магчымасьць цывілізаваным спосабам высьветліць думку грамадзян: ці падтрымліваюць яны палітыку цяперашніх уладаў, ці выказваюць уладам недавер?

Для таго, каб правесьці такое галасаваньне (рэфэрэндум), трэба папярэдне сабраць 350 000 подпісаў. Заклікаем грамадзянаў Беларусі падтрымаць гэтую Ініцыятыву і паставіць свае подпісы за правядзеньне рэферэндуму.

Ніжэй разьмешчаны бланк падпіснага ліста. Калі Вы згодныя падтрымаць Ініцыятыву аб правядзеньні рэферэндуму, запоўніце, калі ласка, гэта бланк, акуратна і дакладна запісаўшы ўсе пазначаныя там дадзеныя, якіх патрабуе Закон аб рэферэндуму, і пастаўце асабісты подпіс. Прапануйце зрабіць гэта членам Вашай сям'і (старэйшым за 18 гадоў), Вашым суседзям.

Пры гэтым памятайце, што падпісацца аднаму чалавеку можна толькі адзін раз. Нельга падпісваць гэты ліст, калі Вы падпісалі іншы! Калі хто паставіць подпіс двойчы, або напіша несапраўдныя дадзеныя ці падробіць подпіс, ён паводле Закону, можна быць прывыцягнуты да адказнасьці.

Ліст з подпісамі або чысты бланк, калі Вы ўстрымаліся, вярніце, калі ласка, чалавеку, які Вам яго даў. Зрабіце гэта тэрмінова, не трымайце ў сябе ліст даўжэй за 1-2 дні.

Вельмі ўдзячныя Вам за падтрымку.

***Ініцыятыўная група рэфэрэндуму.***

РЭФЭРЭНДУМ — РЭФЭРЭНДУМ — РЭФЭРЭНДУМ

### Высокапаважаны Зянон Пазьняк
### Старшыня Сойму Беларускага Народнага Фронту!

Ад імя сяброў **Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады** маем гонар вітаць Вас, Кіраўніцтва, супрацоўнікаў і прыхільнікаў БНФ з 74-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 Сакавіка.

Жадаем плённай працы, веры, сілы й мудрасьці ў Вашым нялёгкім і няроўным змаганьні за фактычную незалежнасьць Рэспублікі Беларусь.

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД У ЗМАГАНЬНІ!**
**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**
**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Старшыня**

## МІТРАПАЛІТ БАПЦ УЛАДЫКА МІКАЛАЙ АДВЕДАЎ БЕЛАРУСЬ

Ад 25 лютага да 15 сакавіка на Беларусі знаходзілася дэлегацыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чале з Мітрапалітам БАПЦ Уладыкам Мікалаем з Таронта (у склад дэлегацыі ўваходзілі сп. Васіль Русак і сп. Мікола Ганько). Мітрапаліт Мікалай і дэлегацыя сустракаліся з Мітрапалітам Беларускай Царквы Уладыкам Філатэрам і старшынём Вярхоўнага Савету рэспублікі — Станіславам Шушкевічам. Уладыка Мікалай служыў у Полацку, Курапатах ды ў іншых мясцох.

Дакладнейшы рэпартаж з паездкі будзе ў наступных нумарох Беларуса.

## САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ СЁЛЕТА АДБУДУЦЦА

29 сакавіка ў горадзе Нью Брансьвіку ў гатэлі Рэджэнсы Інн. Багаслужбы ў царкве Жыровіцкай Божай Маці, БАПЦ і Гайлянд Парку

29 сакавіка ў горадзе Чыкага: Багаслужбы ў царкве Сьв. Юр'я і царкве Хрыста Спаса.

22 сакавіка ў гор. Лёс Анжэлесе ў Каліфорніі.

22 сакавіка ў гор. Таронта. Багаслужба ў Саборы Сьвятога Кірылы Тураўскага і ў царкве Сьв. Еўфрасіньні.

22 сакавіка ў Клійлендзе у грамадзкім цэнтры Полацак. Багаслужба ў царкве Жыровіцкай Божай Маці, БАПЦ у Клійлендзе

22 сакавіка ў гор. Саўт Рывэры. Багаслужба ў царкве Сьвятой Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры.

Кангрэсавыя прыняньці дэлегацыяў з розных мясцовасьцяў у Вашынгтоне адбываюцца ад 16-га да 30 сакавіка.

## ЯКОЙ БУДЗЕ ЗАЎТРА АБАРОНА НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

Яшчэ ў 19-ым стагодьдзі клясык беларускае літаратуры Францішак Багушэвіч сказаў: «Спрадвеку, як наша зямелька зь Літвой злучылася, як і з Польшчай зьядналася дабравольная, дык усе яе «Беларусяй» звалі, і недарма ж гэта! Не вялікая, не малая, не чырвоная, ня чорная яна была, а белая, чыстая: нікога ня біла, не падбівала, толькі баранілася».

Праўдападобна, што гэтая беларуская народная вайсковая дактрына на працягу апошняга стагодзьдзя не зьмянілася і асноўны яе прынцып — прынцып самаабароны, будзе закладзены ў падмурак новага беларускага вайскоўства.

Прынамсі так выглядае са словаў Міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўніка Пятра Чавуса.

Як паведаміў першы вайсковы міністр незалежнай Беларусі, нашая краіна, як і ўсе іншыя сувэрэнныя дзяржавы, будзе мець сваё войска, што мусіць паўстаць на базе тых вайсковых злучэньняў, якія сёньня знаходзяцца на тэрыторыі краіны. Дзеля гэтага спатрэбіцца пэўны пераходны перыяд, у які трэба вызначыць, што гэта будзе за войска і якія задачы яно будзе вырашаць. Вельмі прыемна, што генерал-палкоўнік падыходзіць да гэтага ня толькі як вайсковец, але і як грамадзянін, разумеючы, што ўтрыманьне войска ня можа быць цяжарам для эканомікі краіны.

«Тэж уставуем: хто бы кольвек с подданых нашых пенязи нашы... брал, таковые люди служыти будуть у гуфе нашым», — пастанаўляў некалі Статут Вялікага Княства Літоўскага, які, як бачым, таксама ўлічваў эканоміку Бацькаўшчыны.

У пытаньні падзелу маемасьці Ўзброеных Сілаў былога Саюзу сп. Чавус, ужо не як генерал, а як палітык, прапанаваў пачакаць адпаведных рашэньняў, зазначыўшы, што тая вайсковая маемасьць, якая на сёньня знаходзіцца у межах Беларусі, ужо стала ейнай уласнасьцю, за выключэньнем стратэгічных узбраеньняў, якія, на думку сп. Чавуса, ня гледзячы ні на што, апаратыўна ўсё ж будуць падначаленымі Савету міністраў рэспублікі.

З выказваньняў генерал-палкоўніка Чавуса вынікае, што Беларусь і надалей будзе трымацца прынцыпаў недалучэньня да вайсковых саюзаў і блёкаў, г. зн, заставацца неўтральнай, а таксама без'ядзернай краінай.

Па-ранейшаму вострым застаецца пытаньне сацыяльнага забесьпячэньня вайскоўцаў, улучна з пытаньнямі жылля. Тым ня менш і яны вырашаюцца: ідзе распрацоўка шэрагу адпаведных дакумэнтаў, здадзенае ў карыстаньне вайсковае мястэчка пад Барысавам, распачатае будаўніцтва такога-ж мястэчка пад Мар'інай Горкай.

А што да вядомага статутовага артыкулу: «Загад начальніка — закон для падначаленага»? — тут міністр абароны Беларусі, як кажуць, «на кані»: «Распрацуем, — кажа ён, — уважым, абмяркуем і прымем так, каб выключыць ужываньне ўзброеных сілаў супраць свайго народу. Асабіста я — цьвёрда стаю на гэтай пазыцыі».

Згадайма й мы, што паводле 27-га артыкулу, часткі 2-ой «Статута Вялікага княства Літоўскага» вайскоўцам забаранялася рабіць шкоду свайму насельніцтву. У адваротным выпадку закон прадугледжваў падвойную плату за нанесеныя страты, ці выгнаньне зь дзяржавы.

Што ж, як выглядае, са стварэньнем беларускага нацыянальнага войска адраджаюцца і ягоныя традыцыі, традыцыі людзкасьці і павагі да чалавека. Тым больш яны, як ведама, ёсьць часткай беларускай душы, адвеку сфармаваным сьветаглядам і самім жыцьцём, бо наўрад ці міністр абароны Беларусі карыстаўся, або адмыслова праглядаў нашыя старажытныя заканадаўчыя акты.

На прыканцы сваёй нататкі мушу толькі пашкадаваць, што ня было закранутае пытаньне «Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў» і нацыянальнай гвардыі, прынцыпы фармаваньня якой таксама былі ўзаконеныя яшчэ ў канцы 16 стагодзьдзя канцлерам Вялікага княства Літоўскага Львом Сапегам у славутым «Статуце...» Між тым блізу год таму начальнік Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік Анатоль Кастэнка падтрымваў ідэю стварэньня беларускай гвардыі, якая, між іншым, мела ў нашых продкаў найменьне: выбранцы. Дарэчы, што тычыцца чутак пра нядобрыя адносіны паміж двума беларускімі генераламі Кастэнкам і Чавусам апошні іх з упэўненасьцю адрынуў.

Што ж, пажывем — пабачым, але добра было б, каб усё сказанае Міністрам абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнікам Пятром Чавусам — ды Богу ў вушы.

**Сяржук Сокалаў-Воюш**

# ВЯРТАНЬНЕ СЬЦЯГУ




*Беларускі сьцяг, побач зь Югаслаўскім, на галоўнай вуліцы Ньюарку, Нью-Джэрзі*

Мы нараджаліся ў БССР. Пад чырвона-зялёным. Для адчуваньня сваёй апрычонасьці, нерасейскасьці гэтых сымбаляў бадай што хапала. Стужка арнамэнту на сьцягу, кармавыя культуры ў гербе (шкада, што бульбяных клубняў і зубра не было!) — чым не атрыбуты асобнасьці? А між тым і празьмерныя праявы ляяльнасьці гэтым знакам «рэспублікі» ўспрымаліся калі не як нацыяналізм, дык прынамсі як небясьпечнае дзівацтва. Ёсьць жа бо «нармальны», «сапраўдны» сьцяг, герб — эсэсэсэраўскі, а гэтак недалёка й да нацыяналізму «скаціцца». І было, што прымушалі сяго-таго здымаць Дзяржаўны Сьцяг БССР з-над ложка ў студэнцкім інтэрнаце з суровым папярэджаньнем. Гэтак было й з моваю, але мова — гэта ўжо штось страшнейшае...

І аднак... Асобнасьці, нерасейскасьці было мала. Душа патрабавала большага. Сувэрэнітэт нацыі, незалежнасьць — вось было тое таемнае памкненьне, якое часам страшна было й выказаць уголас, асабліва тады, калі яшчэ ня ведаў, што ты не адзін такі «ненармальны». А гэтыя паняцьці патрабавалі іншых сымбаляў. Пагоня знайшлася сама, інтуіцыйна, даволі было начытацца кніжак пра Княства, атаясаміць яго зь Беларусьсю — і крамольны коньнік ужываўся паўсюль, дзе гэта адчувалася прыстойным. Страшна не было — усё роўна ніхто (здавалася тады!) ня ведае. Рэвэляцыяй сталася (як пазьней выявілася — ня толькі для мяне) кніжка завяртанца Вацлава Мацкевіча «На тым сьвеце», дзе падаваліся ў нэгатыўным сьвятле (але — «чытай наадварот») і Пагоня, і бел-чырвона-белы сьцяг, і шмат іншага. Я зайздрошчу тым, хто ўзяў гэтыя веды з «нармальных» крыніцаў. Крыніцамі гэткімі на той час (пачатак 80-х) былі заходнебеларускі, паднямецкі й эміграцыйны друк, замежнае радыё, ацалелыя сьведкі ды тыя, крыху старэйшыя, хто да нас ужо прайшоў той самы шлях. Прабіцца да гэтага было ня так проста, і таму мы мусім быць удзячныя нашым «паклёпнікам», якія сьведама ці нясьведама шмат каго адукавалі. Шкоды ад іхнае пісаніны было мала, бо апрача такіх, як мы, «нацыянальна заклапочаных» элемэнтаў іх бадай ніхто й ня чытаў, простага чалавека такія тэмы не цікавяць.

Праз даўгі час сьцяг адкрыта й публічна не дэманстраваўся, калі не лічыць розных «іншаказаў» — стужак, нашывак, спалучэньняў колераў у афармленьні й г.д. Былі й зачэпкі ўладаў да гэтых замаскіраваных дэманстрацыяў, як, прыкладам, у гісторыі з разгонам Купальля ў Мікалаеўшчыне ў 1985 годзе, раздавалася па тры стужкі «злачынных» колераў, або пасьля публікацыі ў «Помніках гісторыі й культуры» зацемкі пра «Талаку» (канец 1985 году!), дзе на чорна-белым здымку на грудзях у аднаго хлапца аж гарыць прышытая стужка. Кур'ёзны выпадак быў зь дзіцячаю кніжкаю «Сіняя сьвіта налева пашыта», дзе мастак М. Купава павесіў на вежы княскага замку ледзь заўважныя бел-чырвона-белыя сьцяжкі. Давялося ўладам зьбіраць па кнігарнях і зьнішчаць увесь тыраж. Стаялі сьцягі й па хатах... І вось як гром зь яснага неба — 17 красавіка 1987 году над Опэрным тэатрам сярод белага дня ўзьнімаецца бел-чырвона-белы сьцяг і лунае ў менскім небе аж некалькі гадзінаў! Гэткая затрымка ўладаў тлумачыцца проста: тады мала хто ведаў што гэта за сьцяг — ці мала там якую замежную дэлегацыю прымаюць...

Але «паехала» ўсё ў 1988 годзе. Пачалі вырывацца з братніх абдымкаў Балтыйскія краіны, узьніклі Народныя Франты. Іхныя праграмныя дакумэнты апэратыўна ў нас перакладаліся й пашыраліся, рыхтавалася глеба. З зайздрасьцю глядзелі мы, як выносіліся там свае сьцягі — бо ж які мітынг безь сьцягоў! А ў нас тады вынесі — адразу ж завалакуць куды трэба, а самая страшнае — людзі навокал не зразумеюць за што. У Балтыі ніхто ніколі не забываўся пра свае колеры, а ў нас пра іх амаль ніхто й ня ведаў, калі мець на ўвеце шырокія масы. Тым часам падзеі разьвіваліся даволі імкліва. У ліпені 1988 году на мітынгу «Саюдзісу» ў Вільні расейскамоўная дэмакратычная групка зь Менску (не нацыяналісты!), пабачыўшы, што ўсе зь сьцягамі — літоўцы, армяне, латышы — хуценька даведаліся «А какой у нас флаг?» і апэратыўна на месцы пашылі бел-чырвона-белы сьцяг. Апавядаюць, што старыя віленскія беларусы са сьлязьмі хадзілі за сьцягам — ня бачылі яго больш за сорак гадоў. А на менскім вакзале сьцяганосцаў ужо чакала міліцыя.

А далей ... зноў дапамаглі камуністы. На пачатку жніўня «Зьвязда» друкуе пагромны артыкул «Чаго хочуць талакоўцы», дзе паведамляецца аб паседжаньні «Талакі», на якім інфармавалася аб беларускай нацыянальнай сымболіцы. «Зьвязда» падрабязна расьпісала, што за сымболіка ў «беларускіх нацыяналістаў», дзе яны яе ўжывалі й гэтак далей. Закруцілася прапагандная катрынка, артыкул быў перадрукаваны ў дзесятках газэтаў рознага рангу, і ў выніку празь які тыдзень уся Беларусь ведала, што й мы не сіраты і маем свой «нацыяналізм» з сваімі сьцягам і гербам — ну, усё «як у людзей».

У кастрычніку таго памятнага году быў створаны Беларускі Народны Фронт, а 30 кастрычніка падчас гістарычных ужо падзеяў каля Маскоўскіх могілак на мітынгу сярод поля быў узьняты горда, адкрыта й змагарна Сьцяг. І падаў першы сьнег на непакрытую галаву Пазьняка, і стаяла, разявіўшы рот, падбеглая міліцыя. Пачыналася новая эра.

Пасьля быў Другі Вальны Сойм беларускіх суполак у Вільні, дзе ўсё квітнела сьцягамі, ад вакзалу й да залі паседжаньняў, быў вялікі мітынг на стадыёне «Дынама» ў Менску, калі першы раз у Менску ніхто не чапаў сьцягоў, а іх было сотні й сотні. Так бел-чырвона-белы сьцяг адрадзіўся на нашай зямлі пасьля доўгіх гадоў канспірацыі. Далейшая ягоная гісторыя, аж да дня, калі ён залунаў над Домам Ураду ў Менску, багата задакумэнтаваная ў другу й не патрабуе адмысловага агляду. Сёньня ж мы стаемся сьведкамі таго, як перахаваны на выгнаньні сьцяг наш, пераможна ўзьняўшыся на Бацькаўшчыне, зноў ідзе ў вялікі сьвет — да будынку ААН і Рокафэлэраўскага Цэнтру ў Нью-Ёрку, да галоўных праспэктаў і вуліцаў амэрыканскіх гарадоў, да беларускіх дзяржаўных прадстаўніцтваў, амбасадаў й кансулятаў у розных краінах. Нарэшце спаўняецца прарочае Купалава жаданьне — **займаем і мы свой пачэсны пасад між народамі!**

**С. Шупа**

# БЕЛАРУСІКА Ў ШВЭЦЫІ

Для вывучэньня беларускае дыяспары, асабліва кніжных і дакумэнтальных рэсурсаў — Швэцыя надзвычай цікавая краіна. Аб гэтым у свой час пісалі у беларускім друку кіраўнікі Швэдска-Беларускага Таварыства, асабліва ягоны лідэр сп. А. Лукашык, але са сьмерцяй апошняга замерла ў Швэцыі як грамадзкая беларуская справа, гэтак і дасьледваньні беларускіх друкаваных і дакумэнтальных рэсурсаў у гэтай краіне. Трэба аднак сказаць, што беларускія дасьледнікі ў апошніх колькі гадоў пачалі наведваць Швэцыю. Друкаваная тут нататка — вынік колькітыднёвага дасьледваньня беларусікі ў кнігазборах Швэцыі.

Найперш трэба падкрэсьліць, што ў Швэцыі, блізу ў дзесятку бібліятэках знаходзіцца цімала славянскіх рукапісных матар'ялаў сярод каторых могуць быць выяўленыя і манускрыпты беларускія. Вялікія-ж кнігазборы славянскія улучна зь беларускімі знаходзяцца ў Стакгольме ды ў бібліятэках Гётбаргскага, Люндскага ды Упсальскага унівэрсытэтаў. Гэтыя бібліятэкі маюць шмат беларускіх стадрукаў зь Віленскіх, Магілёўскіх, ды іншых друкарняў Беларусі. Кажная з гэтых бібліятэкаў мае таксама паважныя зборы беларусікі, як савецкага гэтак і дасавецкага пэрыяду ды з дыяспары. Добра прадстаўленая у кольких швэдскіх бібліятэках і беларуская пэрыёдыка, хоць заўважаецца спарадычнасьць і няпоўнасьць у ейным камплектаваньні. Вельмі цікава тут адзначыць, што бібліятэка Упсальскага унівэрсытэту вызначаецца тым, што ў ёй знаходзіцца найбольшая (магчыма і ў сьвеце?) калекцыя газэтаў з былое царскае Расеі.

Але найперш аб кніжнай беларусіцы ва Упсальскім унівэрсытэце. Бадай найбагацей прадстаўленая ў кнігазборах беларуская літаратура: налічаецца каля 200 беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Асабліва ўважліва зьбіралася літаратура дваццатых гадоў. Наступна па колькасьці кнігаў (аблічэньні відавочна вельмі прыблізныя) знаходзіцца лінгвістыка, у калекцыі якое ёсьць амаль усе клясычная працы як акадэміка Карскага, беларускія граматыкі — Тарашкевіча, Лёсіка і іншых мовазнаўцаў, шмат тэарытычнае літаратуры зь беларускага мовазнаўства. Зь гісторыі Беларусі ёсьць працы Уладзімера Пічэты, Мітрафана Даўнара-Запольскага, Усевалада Ігнатоўскага, амаль поўная калекцыя працаў Міколы Улашчыка ды дзесяткоў сучасных беларускіх гісторыкаў. Зь іншых прадметаў добра рэпрэзэнтаваныя геаграфія, эканоміка, транспарт і г.д.

Колькі словаў аб «козыры» славянскае пэрыёдыкі ў бібліятэцы Упсальскага унівэрсытэту — калекцыі газэтаў, якая прыцягвае асаблівую ўвагу дасьледнікаў гісторыі былога Савецкага Саюзу. У бібліятэцы каля 6-х тысячаў газэтаў. Абсалютная бальшыня зь іх газэты расейскамоўныя, але цімала і іншамоўных ды колькі беларускіх. Гэтая калекцыя называецца калекцыяй імя Торстэна Лундэля. Торстэн Лундэль — ведамы шведскі славіст. Ягоны бацька быў прафэсарам славянскіх моваў упсальскага унівэрсытэту, па сьлядох ягоных пайшоў і сын. Торстэн Лундэль, які добра ведаў славянскія мовы, улучна зь беларускай, выбраў потым дыпляматычную кар'еру. У часе расейскае рэвалюцыі — 1917-18 гады, ён быў вайсковым аташэ пры швэдскай амбасадзе ў Пецярбургу, а потым прадстаўніком Чырвонага Крыжа ў Расеі. Лундэль стаўся сьведкам гістарычных падзеяў. Уважаючы, што найлепшым дакумэнтам эпохі — штодзённая газэта, Торстэн Лундэль выстараўся дазвол (з пэрсанальнай дапамогай камісара Луначарскага — тагачаснага Наркома Асьветы), падарожнічаць па розных гарадох ды зьбіраць (купляць) бягучыя губэрнскія й мясцовыя газэты. За месяцы рэвалюцыйных падзеяў Лундэль і ягоныя супрацоўнікі аб'ехалі некалькі сотняў гарадоў і малых мясцовасьцяў. Сабралі яны панад 6 тысячаў газэтаў, а сярод іх колькі беларускіх ды газэтаў, якія закранаці беларускае пытаньне. Савецкі ўрад тады дазволіў Лундэлю перавезьці ўсе газэты ў Швэцыю. Зь беларускіх газэтаў, як у калекцыі Лундэля, гэтак і ў агульнай бібліятэчнай ёсьць «Дзяньніца», «Савецкая Беларусь», колькі выпускаў «Вольнай Беларусі» да іншыя. Цікавая адзнака газэтаў тае пары; дзеля нястачы паперы, газэты часта друкаваліся на абёрткавай, цыгарэтнай, каляровай паперы, ды ў адным выпадку на паперы з грашовымі (царскімі) знакамі.

Калекцыя Торстана Лундэля — неабходны матар'ял для дасьледнікаў рэвалюцыйных падзеяў 1917-18-х гадоў.

**В. Зубкоўскі**

# ПРА БЕЛАРУСАЎ НА ФРАНЦУСКІМ РАДЫЁ

Француская радыёстанцыя ў Парыжы "Radio Droit de l'Home (Радыё Правоў Чалавека) перадала 24-га студзеня 20-хвілінная інтэрв'ю з прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры УНЭСКО, сп. Каўбасінам і сакратаром Асацыяцыі Францыя-Беларусь Лявонам Шыманцом.

Пытаньні закраналі інфармацыю агульнага характару й пэрспэктывы эканамічнага супрацоўніцтва між Францыяй і Беларусяй.

Варта гэтта зазначыць, што тая самая радыёстанцыя перадала першую праграму прысьвечаную Беларусі 13-га траўня мінулага году. Была гэта 45-хвілінная перадача, якая падала агульную інфармацыю пра Беларусь. У праграме бралі ўдзел Джоанна Сурвілла, Анна Наумовіч і Лявон Шыманец.

7-га лютага сп. Лявон Шыманец даў інтэрв'ю радыястанцыі ТСФ. Галоўнай тэмай была Супольнасьць Незалежных Дзяржаваў.

3-га сакавіка Радыё Франс перадало інтэрв'ю з дэпутатам Уладзімерам Новікам і сп. Лявонам Шыманцом.

**Я. В.**

# ЮБІЛЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА Ў КАНАДЗЕ

15 сьнежня 1991 г. беларусы Канады сьвяткавалі 100-я ўгодкі ад нараджэньня вялікага беларускага паэты Максіма Багдановіча. Урачыстасьць ладзіў **Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады** ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта. У залі БР-ГЦ была арганізаваная прынагодная выстаўка кніг, плякатаў й паштовак з партрэтам Паэты выданых БІНіМ у ЗША, партрэтаў выдатных нашаніўцаў зь якімі М. Багдановіч супрацоўнічаў, якія мелі на яго ўплыў: Івана й Антона Луцкевічаў, Купалы, Коласа ды іншых. Заля была упрыгожаная аргінальнымі палескімі тканінамі ды аграмаднай — выкананай мастачкай Івонкай Сурвіла — ПАГОНЯЙ.

Пасьля багаслужбы, ў якой улучана была й малітва за супакой душы Паэты, адбыўся ўрачысты сход. Адкрыў яго старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Мікола Ганько. Даклад аб Максіму Багдановічу й ягонай творчасьці мела старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Раіса Жук-Грышкевіч. Гаварыла яна пра паходжаньне Паэты, варункі ў якіх ён гадаваўся, раньняе асірацэньне, пра ягоныя шчырыя нацыянальныя пачуцьці й бязьмежную любоў да Беларусі, што сталіся арганічнай часткай ягонай душы й найбагацейшым элементам ягонае творчасьці; пра ягонае супрацоўніцтва ў «Нашай Ніве», знаёмства з беларускімі дзеячамі ды іхні ўплыў на ягоную творчасьць. А тэматыка творчасьці паэты ў аснаўным наскрозь беларуская, багатая й разнастайная. Прысьвячае ён мейсца й асабістым перажываньням і філязафічным роздумкам, плятанічна-рамантычнай лірыцы каханьня, выкарыстоўваў матывы беларускае народнае творцасьці. У сваіх творах М. Багдановіч адтварае візію беларускай гістарычнай міўўшчыны — «Пагоня»; адклікаецца на агульныя нацыянальныя й сацыяльныя праблемы беларускага народу, будучы такім чынам, як і ягоныя нашаніўскія сучасьнікі, паэтам адраджэнцам ў поўным гэтага слова значэньні.

У Вільні Максім Багданові пазнаёміўся з прадметамі беларускай старасьвеччыны, што знаходзіліся ў зборах Івана Луцкевіча і пазьней палажылі аснову для Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча. Вялікае ураженьне на Багдановіа зрабілі славянскія рукапісныя кнігі, слуцкія паясы, ды іншыя рэчы. Ад гэтых уражаньняў бяруць пачатак такія вершы, як — «Слуцкія ткачыхі», «Парапішчык», «Летапісец».

Толькі некалькі гадоў М. Багдановічу давялося быць у яго любай Беларусі апошнім разам ён быў у Менску ў 1916-1917 гадох. Тады ён быў у цесным кантакце зь беларускімі дзеячамі, асабліва із Зьмітрком Бядулям, у якога кватэраваў. У гэтым часе паўстаў нам добра ведамы, патрыятычны верш «Пагоня» зь ягоным несьмяротным клічам:

«. . . Беце ў сэрцы іх — беце мячамі.
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць . . .»

Нацыянальны характер Багдановічавае паэзіі — зазначыла прэлегэнтка — ня быў вузкі й абмежаваны да беларускае нацыянальнае, і толькі беларусам зразумелае, спэцыфікі. М. Багдановіч азнаёмлены з заходня-эўрапэйскай культурай сам у культурным сэнсе быў наскрозь эўрапэйцам і патрапіў сваім творам, абаснаваным на беларускім матар'яле, надаць агульналюдзкі характар. «Ягоны верш — як кажа Антон Навіна (Антон Луцкевіч) — гэтаксама гаворыць беларусу, як і чужынцу». Гэта Антон Навіна назваў Максіма Багдановіча «Песьняром красы». М. Багдановіч уважаў, што літаратурны твор перш за ўсё павінен быць мастацкім творам. ён прызнаваў вялікае ідэйнае ўзьдзейваньне літаратурнага твору на чытача, але толькі ў тым выпадку, калі гэтае ўзьдзейваньне ўспрымаецца чытачом як эстэтычнае перажываньне. «Няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы» — выказвае Багдановіч сваё паэтычкае крэда у творы «Апокрыф».

М. Багдановіч ведаў замежныя мовы — нямецкую, французскую, ведаў грэку й лаціну і шмат зрабіў перакладаў з сусьветнай і клясычнай літаратуры.

У квітнеючым месяцы 15 травея 1917 году, у квітнеючым веку 25-ці год у Ялце без радні бяз прыяцеляў Максім Багдановіч дагарэў ад сухотаў.

«у краіне сьветлай дзе я ўміраю.
У белым доме ля сіняй бухты.
Я не самотны, я кнігу маю».

З друкарні пана Марціна Кухты» — «Вянок», ягоны першы й адзіны зборнік, што выйшаў у 1913 годзе у Вільні.

Ды — **«Ня зусім» Максім Багдановіч «памёр, лепшая часць яго не зазнала хаўтур» і слава яго ўвесь час між нашчадкаў расьці будзе!**

**Раіса Жук-Грышкевіч**






# НАВІНКІ ДРУКУ

Выйшаў з друку 51 нумар часапісу **«Беларускі Сьвет»**, рэдагуе Мікола Прускі. Часапіс прысьвечаны 75-і годзьдзю беларускага паэты сп. Міхася Кавыля ды зьмяшчае шырокі біяграфічны нарыс паэты і некалькі ягоных твораў. Гэтаксама ў часапісе выдрукаваныя цікавыя й поўнасьцю нідзе не друкаваныя ўспаміны Міхася Міцкевіча (наймлодшага брата Якуба Коласа) аб Якубу Коласу. З успамінаў таксама трэба адзначыць асабліва важныя матар'ялы Марыяна Пецюкевіча. У нумары зьмешчаныя артыкулы Васіля Стомы, Антона Адамовіча, вершы Анатоля Бярозкі ды эсэ прафэсара Якава Каламінскага аб «Невядомым Чарнобылю». У дадатку да часапісу — нр. 12-цікавыя палітычныя зацемкі. Выдавец і рэдактар часапісу просіць шаноўных чытачоў адгукнуцца заўвагамі ды пасільнай грашовай дапамогай на адрыс:

Mikola Prusky
1086 Forest Hills Ave. S. E.
Ground Rapidst, MI, 49546

Прысланы ў рэдакцыю нр. I (II), 1992 часапісу **«Полацак»**, рэдактар сп-ня Сьвятлана Белая. У часапісе выдрукаваныя новыя матар'ялы ў разьдзелах: Зерцало жития, Наша гісторыя, Згукі бацькаўшчыны, Далёкая і блізкая, Памяць зямлі, Роднае слова, Карані нашага роду ды хроніка жыцьця ў Кліўлендзе.

Выйшаў 1-2 (5-6) нумар **«Беларускага калекцыянэра»** за 1992 год. Як і ў папярэдніх выпусках, у гэтым нумары шмат цікавага матар'ялу як для беларускіх калекцыянераў у дыяспары, гэтак і гісторыкаў, краязнаўцаў ды наагул усім хто цікавіцца беларускай даўніной і сучаснасьцяй. У вельмі зьмястоўным артыкуле «Малюўма беларускія грошы» дыскутуюцца праэкты беларускіх грошай.

# РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ

Чарнобыльская катастрофа і злачынства затойваньня яе фактычных наступстваў на працягу трох зь лішнім гадоў ведамая цэламу сьвету. Весткі пра такое няшчасьце ўзрушаць кожнае чалавечае сэрца. Іншая, аднак, справа сустрэцца з тым горам, дакрануцца яго, сутыкнуцца з тымі замаранымі людзьмі, зь іх шэра-жоўтымі, з выразам безнадзеі, тварамі, пакрыўджанымі дзеткамі, асуджанымі злым лёсам на павольнае паміраньне, пабачыць апусьцелыя вёскі, бязьмежныя пазарасталыя быльлём абшары атручанай, мо' на стагодзьдзі, зямлі. Няма і ня можа быць кампэнсацыі роўнай крыўдзе, якую можна толькі аблягчыць у якойсь ступені, прадоўжыць жыцьцё людзей, а перадусім дзяцей.

Незалежна ад матар'яльнай вартасьці помачы, якую аказалі зямлякам з замежаў Бацькаўшчыны, у тым ліку з Амэрыкі ці Канады, мае яна маральны водгук і сьветчыць аб нашай нацыянальнай салідарнасьці, што нам сяньня асабліва важна.

Карыстаючы з нагоды, я рад споўніць свой прыемны абавязак — падзякаваць ад себе ды ад дзетак з чарнобыльскай зоны шаноўным зямляком з Амэрыкі за дапамогу у зарганізаваньні летніх вакацыяў для дваццацёх дзяўчынак і хлопцаў у горах каля г. Закопанэ у Польшчы, у жніўні 1991 г.

Сьпіс ахвярадаўцаў апублікавала беластоцкая «Ніва» № 2, ад 12-га студзеня. На падкрэсьленьне, аднак, заслугоўвае ініцыятыва зарганізаваньня складчыны сябрамі Уладзімірам Пелесом і Міколам Грэбеням, якія за сям'ёй Казьлякоўскіх, сталі ў першых радках сьпіску ахвярадаўцаў. Сп. Мікола Грэбень (прозьвішча яго і ягонай сям'і паўтараецца, дарэчы, у сьпіску ажно 4 разы) найбольшую радасьць справіў дзецям прысланымі падарункамі: забаўкамі і прысмакамі, якіх хапіла абдзяліць цалюткую групу.

Асабіста дзякую таксама д-ру Барысу Рагулю, што шмат раней прыслаў чэк на 50 даляраў. Гэтым ён памог выдатна выканаць, даволі складаныя у нашых умовах, арганізацыйныя справы, якія вымагалі асабістых кантактаў, у данным выпадку, з Кракавам, Закопанэ, Менскам пры наладжваньні прыезду і утрыманьня дзецей зь Беларусі летам у 1990-ым і ў 1991-тым гадох.

**Янка Жамойцін**

# НОВЫ АНГЛАМОЎНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Нью Ёрку — Нью Джэрзі пачала выдаваць ангамоўны бюлетэнь выключна для сяброў і патрэбаў арганізацыі. У першым нумары зазначаецца, што бюлетэнь будзе непэрыядычны, абумоўлены патрэбамі арганізацыі. Бюлетэнь называецца **BABLER**, што ёсьць ангамоўным скаротам Born-American-Belarusans.

У першым нумары бюлетэню даецца абшырная хроніка жыцьця моладзі, справаздача аб дапамозе моладзі ахвярам Чарнобылі ды даўгое і цікавае інтэрвію з д-рам Аняй Бартуль, якая разам з мужам сп. Сяржуком-Воюшам нядаўна вярнулася зь Менску, дзе брала ўдзел у розных грамадзкіх праграмах, улучна із працай з арганізацыяй CityHope якую кіруе сьвятар Пол Мор і спадарыня Шэран Мор.

Выдаўцы бюлетэня заклікаюць усю амэрыканска-беларускую моладзь да супрацоўніцтва. Карэспандэнцыю слаць на адрас:

Dr. Jurka Kipel
11 Lohman Place
Dumont, N.J. 07628

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## ЗАПУСНЫ АБЕД
## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ ДАПАМОГУ



*Пра Чарнобыльскую дапамогу інфармуе Шэран Мор.*

Парафія БАПЦ у Гайленд-Парку наладзіла ў нядзелю І-га сакавіка прыгожую сустрэчу беларуска-амэрыканскага грамадзтва з нагоды запускаў. Запусны абед быў спалучаны зь інфармацыяй, якою падзяліўся дастойны Пол Мор і ягоная сям'я пра акцыю дапамогі беларускім дзецям, ахвярам чарнобыльскай радыяцыі.

Пасьля сьв. Літургіі, у падцаркоўнай залі за бяседным сталом а. Васіль Андраюк расказаў пра значэньне запусное традыцыі. Др. Янка Запруднік паінфармаваў пра апошнія падзеі ў Беларусі.

Смачныя бліны зь верашчакай былі нарыхтаваныя працай сп. Алега Дубягі (старшыня царкоўнае рады) і сп-няў Ані Лук'янчык, Надзі Непеін і Полі Мірановіч.

Зь ініцыятывы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі (старшыня др. Юрка Кіпель) на абед прыбыў дастойны Пол Мор, ягоная жонка Шэран і 18-гадовы сын Пол малодшы ў суправаджэньні віцэ-прэзыдэнта Беларускага Дзіяцячага Фонду Аляксандра Трухана, галоўнага лекара Рэспубліканскага дыспансэра Навукова-дасьледніцкага інстытуту радыяцыйнай мэдыцы др. Валерыя Ржэуцкага, перакладчыка ды колькіх іншых асобаў.

Дастойны Пол Мор расказаў пра шаснаццаць падарожжаў, якія зрабіла ягоная сям'я на Беларусь, завозячы туды лекі й мэдычнае абсталяваньне для шпіталёў і паліклінік, у якіх лечацца хворыя ад радыяцыі дзеці. За апошнія 16 месяцаў, сказаў ён, было завезена на Беларусь мэдычных грузаў на суму шэсьць міліёнаў даляраў, ахвяраваных амэрыканскімі фірмамі, арганізацыямі, паасобнымі людзьмі. Наша сям'я, сказаў сьвятар Пол Мор, прысьвяціла сябе справе дапамогі беларускім дзецям. Дастойны Мор адзначыў заслугу др. Ганны Бартуль у справе дапамогі мэдыкамэнтамі чарнобыльскім дзецям. Сп-ня Шэран Мор і сын Пол у сваіх красамоўных выступленьнях падзяліліся ўражаньнямі ад сустрэчаў зь беларускімі дзецьмі і тымі, хто іх даглядае, лечыць.

За інфармацыяй пр агульнае палажэньне ў Беларусі і цяжкасьці зь лячэньнем дзяцей выступілі сп. Аляксандар Трухан і др. Валеры Ржэуцкі. Абодвы дзякавалі Беларусам Амэрыкі за прыхільнае стаўленьне да справы дапамогі жыхаром чарнобыльскай зоны, на якой змушаныя жыць 800 тысячаў дзяцей.

Госьці зь Беларусі прывезьлі з сабой сувэніры і крыху інфармацыйнае літаратуры, у тым ліку экзэмпляры студзенскага нумару дзіцячага часапісу «Вясёлка», выхад якога быў летась пад пагрозай спыненьня.

Пасьля інфармацыі была разыграная лятарэя, прыбытак ад якое быў перададзены арганізацыі "City Hope International", якую ўзначальвае дастойны Пол Мор. Лятарэю правёў сп. Віктар Дубяга.

Др. Юрка Кіпель перадаў сп. Полу Мору на справу дапамогі беларускім дзецям чэк на 525 даляраў ад Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Сп. Алекс Сільвановіч перадаў на тую самую мэту 250 дал. ад царквы Божай Маці Жыровіцкай БАПЦ.

Выказваючы падзяку сям'і Мораў, сп. Сяржук Сокалаў-Воюш зазначыў, што сваім часам Беларусы аддавалі сваіх лепшых сыноў іншым народам, а цяпер мы бачым, як лепшыя сыны й дочкі амэрыканскага народу ахвяруюць сябе справе дапамогі Беларусі. У гэтым — знак адраджэньня беларускае нацыі.

Сустрэча была закончаная малітвамі дастойнага Мора і а. Васіля. Айцец Васіль падзякаваў гасьцям і ўсім прыхаджанам за ўдзел і ў традыцыйным беларускім застольлі, і ў вялікай хрысьціянскай справе дапамогі тым, хто такое дапамогі найбольш патрабуе.

## ЛЕКЦЫІ ПРА БЕЛАРУСКУЮ МУЗЫКУ НА МІЧЫГАНСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

У 1991-92-ім навучальным годзе, студэнты Мічыганскага Унівэрсытэту ў Анн Арбар мелі нагоду пачуць беларускую музыку — ад Лявоніхі й Перапёлачкі да Аўстралійскай Полькі (Мроя). Кожны сэмэстар тры лекцыі былі прысьвечаныя беларускай музыцы ў рамках праграмы «Музыка сьвету». Гэты новы курс быў адкрыты для ўсіх студэнтаў першага цыклю. Аддзел Гісторыі Музыкі й Музыкалёгіі запрасіў беларуска-канадыйскага этнамузыкалёга Марыю Паўлю Сурвілла чытаць лекцыі. Лекцыі ахоплівалі беларускую традыцыйную музыку, рытуалы, эміграцыйную музыку й беларускі рок.

Сп-ня Сурвілла была таксама запрошаная даць лекцыю пра беларускую музыку у рамках спэцыяльнай праграмы пры Мічыганскім Унівэрсытэце «Народная музыка Заходняй і Ўсходняй Эўропы».

«Я вельмі ўзрушаная гаварыць пра беларускую музыку нашым слухачом-студэнтам і вельмі часта маю прыемную неспадзеўку чуць у калідорах напевы Лявонихі. Мне гэтаксама вельмі прыемна, калі студэнты просяць запісы беларускай музыкі» — гаворыць Марыя Паўля Сурвілла. «Гэты энтызыязм — прадўжае яна — гаворыць ня толькі пра зацікаўленьне беларускай музыкай, але й выяўляе, што студэнты атрымоўваюць больш як пераходнае знаёмства з беларускай музыкай — яна сур'ёзна ўспрыймаюць беларускую музычную культуру.»

**Я. В.**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА ЗША Й КАНАДЫ

Шаноўныя суайчыньнікі! Зьвяртаюся да Вас як мастак і грамадзянін нашай агульнай Бацькаўшчыны.

У гэты нялёгкі для Беларусі час, час развалу эканомікі й палітычнага крызісу, найбольш стратаў зазнае духоўная й культурная спадчына нашага народу, якая паранейшаму бессаромна рабуецца, а то й афіцыйна вывозіцца з краіны.

Неабходнасьць захаваньня беларускага жывапісу ў руках нашага народу падштурхнула мяне да думкі стварыць прыватную галерэю сучаснага мастацтва ў Віцебску. Невялікае памешканьне, якое я маю, патрабуеаднаўленьня. У пэрспэктыве трэба мець і набыцьцё нечага большага, але сродкаў катастрафічна нестае.

Добра разумеючы, што ўсялякай дабрачыннасьці ёсьць разумныя межы, я тым ня меньш прашу ў Вас грашовай дапамогі на узаемнавыгодных умовах:

1. Фундатары й дапаможцы будуць мець права выбраць і атрымаць твор мастацтва.

2. Фундатарам і дапаможцам даеца прыярытэтнае права на набыцьцё твораў маладых беларускіх мастакоў, якія супрацоўнічаюць з нашай галерэяй.

3. Кожны фундатар і дапаможца мае права на акцыянэрны (камэрцыйны) удзел у дзейнасьці галерэі.

4. Фотаздымкі фундатараў і дапаможцаў будуць заўсёднай часткай экспазыцыі галерэі.

**Алесь Пушкін, мастак**

Прыймаю замовы на выкананьне абразоў, вітражоў, пэйзажаў, партрэтаў, нацюрмортаў і г. д. Заробленыя сродкі будуць перададзеныя на карысьць галерэі.

Прапановы й дапамогу прашу дасылаць з зазначэньнемі на галерэю, на наступны адрас:

Anna Bartul 193-05 Keno Ave.
Holliswood, N.Y. 11423

Ліст апрацаваны для друку Сяржуком Сокалавым-Воюшам, які гэтаксама падае кароткую біяграфічную зьвестку пра Алеся Пушкіна.

Алесь Пушкін нарадзіўся 6 жніўня 1965 году ў в. Бобр пад Крупкамі, што на Меншчыне. Скончыў Менскую мастацкую школу імя Ахрэмчыка і Менскі тэатральна-мастацкі інстытут (аддзел манумэнтальнага жывапісу).

Сярод сьведамай беларускай моладзі ведамы, як чалавек адданы справе нацыянальнага адраджэньня, які адным зь першых воінаў-вэтэранаў Афганскае вайны выступіў з публічным яе асуджэньнем.

За арганізацыю й правядзньне мітынгаў у гонар Дня Незалежнасьці (25 Сакавіка) Алесь Пушкін двойчы гвалтоўна быў затрыманы менскай міліцыяй і адзін раз быў прыцягнуты да судовае адказнасьці напрыканцы 80-ых гадоў.

Лёзунг «За Беларусь бяз камуністаў» публічна прагучэў з вуснаў Пушкіна яшчэ тады, калі многія з нашых суайчыньнікаў на Беларусі неадважваліся пра гэта й падумаць.

Алесь зусім шчыры, часам да наіўнасьці, чалавек. Пра такіх кажуць, што ім цяжка не паверыць. І гэта — праўда.

**Сяржук Сокалаў-Воюш**
**Сябра Сойму БНФ**

## БЕЛАРУСКІЯ ВІДЭАФІЛЬМЫ

«Беларускім відэацэнтрам» створаны цэлы шэраг відэафільмаў, якія маюць на мэце садзейнічаць адраджэньню беларускай культуры, яе спадчыны і стваральнікаў нацыянальнага фальклору, і, канешне, ахове і адраджэньню роднай мовы. Наша задача — данесьці ўсё гэта да сэрца кожнага беларуса, зрабіць ягоным уласным пачуццём.

Фільмы запісаныя ў сыстэме PAL, фарматы VHS і SUPER VHS. Па адпаведнай дамоўленасьці фільмы могуць быць пераведзеныя ў сыстэму SECAM, формат VHS.

**«Спыніся! Яшчэ ня ўсё страчана».** Фільм аб выніках Чарнобыльскай аварыі праз 4,5 гады пасьля выбуху, аб працягу жыцьця на заражанай зямлі і малаэфектыўных мерах па яе рэабілітацыі. (на англ. і руск. мовах). 28 хвіл.

Аўтары фільма Ю. Цьвяткоў, Ул. Хацяноўскі.

**«Мужчынскія рамёствы»** (на белар. мове). Справедчныя народныя промыслы — цесьляроў, кавалёў, бондараў, гарбароў, характэрныя для Беларусі са старажытных часоў, зьберагліся і ў наш урбанізаваны век і прытым не толькі ў вёсцы, але і ў сучасным горадзе. Аб майстрах гэтых рамёстваў. 55 хвіл.

Аўтар сцэнарыя А. Канеўскі. Рэжысёр А. Канеўскі.

**«Мая песьня»** (бяз дыкт. тэксту). Фільм апавядае аб адным з самых вядомых народных калектываў рэспублікі — Дзяржаўным народным хоры Беларусі, аб шляхах творчага развіцьця, шырока знаёміць з сучаснай праграмай. І гадзіна.

Аўтары сцэнарыя Ул. Мацьвееў, М. Дрынеўскі. Рэжысёр Л. Гедравічус.

**«І песня, і сэрца, і слова»** (на белар. мове). Дакументальны фільм аб захаваньні славянскай культуры і пісьменнасьці на тэрыторыі Еўропы, аб сьвяце славян, якое адбывалася ў Менску летам мінулага году. 50 хвіл.

Аўтар сцэнарыя Л. Караічаў. Рэжысёр Ул. Хацяноўскі.

**«На крылах палескага фальклёру»** (без дыкт. тэксту). Мінулагодні фэстываль старажытнай спадчыны беларусаў праходзіў на Палесьсі, у мясцох, якія падпалі пад радыёактыўнае апраменьваньне. Гэтая зона падлягае адсяленьню, але людзі, што стагодзьдзямі жылі тут, працягваюць пець песьні сваіх продкаў, танцаваць пад мэлёдыі бацькоў і дзядоў. Можа, у апошні раз… 42 хвіл.

Аўтар сцэнарыя Ю. Лубоцкі. Рэжысёр В. Купрыянаў.

**«Мотальскія байкі»** (без дыкт. тэксту). Спэктакль, разыграна на вясковых вуліцах, у хатах і дварох вёскі Моталь, Брэсцкай вобласьці. Сабраныя сцэнкі заснаваны на народным гумары, жартах, вадэвільных эпізодах, песьнях і танцах. Выканаўцы гэтага спэктаклю — жыхары вёскі, акцёрыаматары, якія ўжо не адзін раз дэманстравалі сваё майстэрства. 50 хвіл.

Аўтар сцэнарыя і рэжысёр В. Пестаў.

**«Страсці па Аўдзею»** (на белар. мове). Спэктакаль Беларускага Дзяржаўнага тэатру ім. Янкі Купалы. Аўтар Ул. Бутрамееў, пастаноўка В. Раеўскага. Аб трагічных падзеях у беларускай вёсцы ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў. І гадзіна.

Рэжысёр А. Мацэшэўскі.

**«Дзед і Жораў»** (на белар. мове). Спэктакаль Дзяржаўнага тэатру лялек Беларусі па п'есе В. Вольскага, напісанай па матывах народных казак. 47 хвіл.

Аўтар сцэнарыя А. Вольскі. Рэжысёр К. Красьніцкі.

*Працяг на б. 7*

# НОВАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ

**Guy Picarda. The Allegorical Heraldry of Francis Skaryna. London, 1992. 68 p., ill.**

*У даўнія часы, калі іх краіна была полем бітвы ўсіх усходнеэўрапэйскіх канфліктаў, беларусы, як выглядае, мелі асаблівую любоў да баявых подзьвігаў і рыцарскіх сказаньняў. Гэтая схільнасьць, бясспрэчна, караніцца ў змагарнай ролі Вялікага Княства Літоўскага як усходняга бастыёну хрысьціянскае веры супраць уварваньняў няверных татараў і туркаў. У гэтым Княства было падобнае да гішпанскіх каралеўстваў, якія супрацьстаялі на Захадзе кантынэнту нападам маўраў.*

Гэтак пачынаецца новая праца нястомнага энтузіяста й гарачага прыхільніка беларускае гісторыі й культуры Гая Пікарды, якая носіць назоў «Алегарычная геральдыка Францішка Скарыны», займае 68 старонак друку, багата ілюстраваная, зьмяшчае грунтоўныя камэнтары й бібліяграфічныя спасылкі. З увагі на тое, што аўтар выдрукаваў усяго колькі асобнікаў свае працы, адзін з якіх даслаў рэдакцыі «Беларуса», варта было б падаць у перакладзе на беларускую мову некаторыя найбольш важныя ўрыўкі.

*Арол Скарыны — адзін з сымбаляў яго паходжаньня. Скарына паходзіў з купецкае сям'і ... Дзе, дык Скарына, маючы ў 1503 годзе 18 гадоў, мог цалкам згодна зь дзейнымі законамі падлягаць вайсковаму абавязку... Запісаўшыся ў войска добраахвотнікам, або пакліканы на службу, ён мог атрымаць дазвол на залічэньне ў Кракаўскі ўнівэрсытэт у 1504 годзе ў маладзейшым, чым звычайна, веку. З другога боку, ён мог быць пакліканы на службу пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту. У кожным выпадку, гэты яснавокі малады філёзаф у сваёй творчасьці нярaз празрыста намякае, што ён умеў спраўна карыстацца і рыцарскаю шабляю, і пяром, і алавяным куфлем.*

Шмат увагі дасьледнік прысьвяціў аналізу гравюры «Паход дванаццаці каленаў» з кнігі «Лічбы». Паводле яго меркаваньняў, тлумачэньне гравюры трэба шукаць у палітычнай сытуацыі ў Эўропе канца 15-га — пачатку 16-га стагодзьдзяў. Гэты час ахарактарызаваўся няспынным наступам Атаманскае імпэрыі й яе саюзьнікаў на паўднёвым усходзе Эўропы, які завяршыўся ў 1512 годзе забаронаю доступу хрысьціянаў да Гроба Гасподняга ў Ерусаліме. Пад няспыннаю пагрозаю з поўдню жылі Каралеўства Польскае й Вялікае Княства Літоўскае. Аўтар піша:



Гэтак, аналізуючы зьмест гравюры «Аблога Ерусаліму» з «Чацьвертае кнігі Царстваў», аўтар між іншага зазначае:

*Прысутнасьць Скарынавага знаку на полі бітвы выразна паказвае на сувязь канфлікту на гравюры зь нейкімі сучаснымі Скарыну трагічнымі падзеямі, у якія ён мог быць асабіста ўцягнены... Тады яшчэ не было забытае падзеньне Канстантынопаля й захоп яго туркамі, аднак ужо тады гэта была даўняя гісторыя. На гравюры, пэўна, паказваецца нейкае пазьнейшае мусульманскае ўварваньне ў землі Вялікага Княства Літоўскага... Найбольш верагоднымі крыніцамі Скарынавае сымболікі былі, мабыць, аблога татарамі Клецку ў 1503 годзе й вялікая перамога вялікакняскіх войскаў у 1506 годзе, калі ворагі былі выгнаныя зь земляў Княства... Калі прыпусьціць, сьледам за некаторымі дасьледнікамі, што ён нарадзіўся ў 1485 годзе, дык Скарына, маючы ў 1503 годзе 18 гадоў...*

*Дзеля ўмацаваньня еднасьці вялікіх хрысьціянскіх дзяржаваў быў заключаны шэраг трактатаў паміж Даніяй, Масковіяй, Тэўтонскім ордэнам, Сьвятой Рымскай Імпэрыяй, Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчаю. Кульмінацыйным пунктам гэтае дыпляматычнае дзейнасьці стаўся Венскі кангрэс 1515 году... Гравюра з кнігі «Лічбы» можа справядліва быць разгляданая ў сьвятле гэтае памятнае падзеі... Як дванаццаць каленаў Ізраілевых, хрысьціянства стаяла цяпер аб'яднанае й магло зноў выправіцца на вяртаньне страчаных земляў.*

Глыбока прааналізаваўшы геральдычныя элемэнты гравюры, дасьледнік атаясаміў правадыроў дванаццаці каленаў Ізраілевых з найвіднейшымі, з пункту гледжаньня грамадзяніна Вялікага Княства Літоўскага, удзельнікамі Венскага кангрэсу:

*З геральдычнага гледзішча такая алегарычная інтэрпрэтацыя цалкам праўдападобная. З дванаццаці харугваў на Скарынавай гравюры прынамсі дзевяць адпавядаюць гербам кангрэтных асобаў — Жыгімонта I, Скарыны, імпэратара Максіміліяна, Альбрэхта Гаштольда, Станіслава з Ходча, дацкага караля Хрысьціяна II, Канстанціна Астрожскага, Замойскага й Мікалая Радзівіла... Разглядаючы гравюру «Паходу» ў цэласьці, прыпусьціўшы, што нашая геральдычная інтэрпрэтацыя і ідэнтыфікацыя дванаццаці гербаў слушная й адпавядае біблійным атрыбутам з Дабраслаўленьня Ізраілевага, можна заключыць, што гэтая алегорыя бясспрэчна зьмяшчае ў сабе патрыятычны заклік. Улічваючы, што дзевяць сымбаляў з дванаццаці адносяцца да грамдазянаў Рэчы Паспалітае, улучна з Жыгімонтам I, а два да яе прэтэсьных саюзьнікаў (Імпэрыі й Паўночнае Уніі), можна здагадацца, што пад алегарычным Выбраным Народам аўтар гравюры разумеў жыхароў Русі. Бальшыня сьцяганосцаў прысутнічала або была прадстаўленая на вялікім Мірным Кангрэсе ў Вене ў 1515 годзе, на якім, як мяркуюць дасьледнікі, прысутнічаў і Скарына. На харугвах «Паходу» няма ні польскіх арлоў, ні жмудзкіх мядзьведзяў, ні галічанскіх ільвоў, і нават блізкае згадкі пра маскоўскага Сьв. Юрыя... Будучы блізкімі зьместам, гравюры «Аблога» і «Паход» абедзьве маюць адну неаспрэчную мэту — уздымаць патрыятычныя пачуцьці й рэлігійны запал ў «цёмныя часы» ды нагадваць людзям паспалітым на Русі пра неабходнасьць «выпрастаць шляхі свае» й зьяднацца пад нацыянальным сьцягам Сьвятога Крыжа разам з сваімі правадырамі ў вабароне хрысьціянскае веры, грэцкага ці лацінскага абраду, і свае бацькаўшчыны, як пчолы бароняць вульляў сваіх...*

Прапануюцца ў працы вырашэньні й некаторых іншых праблемаў сымболікі на гравюрах Скарыны, падаецца ў ёй таксама нарыс гісторыі беларускае геральдыкі пасьля Францішка Скарыны. Нечаканасьць і сьмеласьць гіпотэзаў, шырокая эрудыцыя аўтара, жывы, часам бэлетрыстычны стыль выкладу робяць гэтую працу надзвычай цікаваю й арыгінальнаю. Дасьледаваньне Гая Пікарды — новае, нестандартнае слова ў нашай багатай Скарыніяне. Трэба спадзявацца, што выдавецтвы не затрымаюцца з прапановамі да аўтара аб найхутчэйшым выданьні ягонае працы асобнаю кніжкаю.

**СС.**

# ДА ГІСТОРЫІ АНГЛА-БЕЛАРУСКАЕ ЛЕКСЫКАГРАФІІ

Гісторыя англа-беларускага слоўніцтва налічвае не адно дзесяцігодзьдзе. Сёлета спаўняецца восемдзесят гадоў ад выхаду ў сьвет першае сьціплае працы ў гэтай галіне — «Размоваў Беларуска-ангельцкіх» у кніжцы «Рады для эмігрантоў, каторые едуць у Амэрыку» аўтарства Язэпа Акаловіча. Кніжка выйшла ў 1912 годзе ў Вільні коштам Таварыства Апекі над Эмігрантамі.

Пэрспэктывы разьвіцьця беларускага слоўніцтва, якія адкрываліся ў 20-я гады, былі гвалтоўна перакрэсьленыя камуністычным інтэрнацыяналісцкім тэрорам у 1929 годзе. Справа складаньня слоўнікаў была перапыненая, выдаваліся толькі расейска-беларускія слоўнікі, вытрыманыя ў каноне ідэялягічнае лінгвістыкі тых часоў.

Не прынесла зьменаў у гэтай галіне й Хрушчоўская адліга, калі беларускае слоўніцтва, як і сама беларускае мова, у сьвятле афіцыйных інструкцыяў успрымаліся як перажытак цёмнае мінуўшчыны, што замінаў у шпаркім ходзе да камунізму.

У 60-80-х гадох зьнявечаная дзесяцігодзьдзямі дыктату й невуцтва беларуская лексыкаграфія нарэшце выйшла на рубяжы, якія ёй давялося пакінуць у канцы 20-х. Паступова аджыло й беларуска-замежнае слоўніцтва.

Першым, хоць і малым, але дагэтуль адзіным на Беларусі стаўся «Англа-беларуска-рускі слоўнік» школьна-дапаможнага тыпу, які выйшаў у 1989 годзе ў выдавецтве БелСЭ пад агульнаю рэдакцыяю Тамары Сушы й Алены Шчукі. Нягледзячы на даволі вялікі для беларускае кнігі тыраж (40000 асобнікаў), слоўнічак гэты вельмі хутка зьнік з паліцаў кнігарняў, што сьведчыць пра значны чытацкі попыт на такую літаратуру й не пакідае аргумантаў тым, хто сумняваецца ў патрэбе замежна-беларускіх слоўнікаў.

Цяпер калектыў аўтараў Менскага Інстытуту Замежных Моваў працуе над слоўнікамі сярэдняга аб'ёму (каля 30000 словаў) беларуска-ангельскім і англа-беларускім, якія, трэба спадзявацца, неўзабаве пабачаць сьвет.

Беларуска-ангельскія кантакты пашырыліся па вайне ў сувязі з тым, што значная колькасьць беларусаў апынулася на эміграцыі, пераважна ў краінах англамоўных.

Адчуўшы патрэбу ў адпаведных дапаможніках, беларускія культурныя дзеячы распачалі лексыкаграфічную працу. Як Пятроўскі выдаў у 1946 годзе ў Лінцы маленькі беларуска-ангельскі й ангельска-беларускі слоўнік, паліграфічны ўзровень, аб'ём і тыраж якога былі занадта сьціплыя й не маглі задаволіць узьніклых патрэбаў.

На пачатку 50-х гадоў Валянтына Пашкевіч, шматгадовая настаўніца беларускае суботняе школкі ў Таронта, пачала зьбіраць і сыстэматызаваць матэрыял для большага ангельска-беларускага слоўніка. Першы плён яе лексыкаграфічнае працы — беларуска-ангельскі й ангельска-беларускі слоўнікі ў падручніку "Fundamental Byelorussian" (Таронта, Т.1. 1974; Т.2. 1978). Аб'ём кожнае часткі — да 9000 слоўных адзінак. Доўгія гады, да выхаду ў сьвет менскага слоўнічка, гэтая праца была адзінаю ангельска-беларускаю лексыкаграфічнаю крыніцаю.

Сп-ня Валянтына Пашкевіч ужо шмат гадоў працуе над укладаньнем большага слоўніка. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва пляную выдаць гэтую працу да 1994 году. Мяркуецца, што слоўнік будзе зьмяшчаць больш за 50000 словаў, словазлучэньняў і фразэалягізмаў.

Тым часам зьмена ў палітычным статусе Беларусі, абвешчаньне дзяржаўнае незалежнасьці й павышэньне цікавасьці да нашае краіны ў сьвеце далі новы імпульс працы лексыкографаў. На гэтай хвалі апэратыўным водгукам на ўзрослы попыт сталася апошняя навінка беларускага слоўніцтва — Беларуска-ангельскі й ангельска-беларускі слоўнік (Byelorussian-English English-Byelorussian Dictionary. Hippocrene Books, New York, 1992). Ягоныя аўтары — Аляксандр Ушкевіч і Аляксандра Зэзулін (Зязюліна?). Слоўнічак гэты, які толькі што зьявіўся на паліцах кнігарняў, мае 290 старонак друку, зьмяшчае каля 6500 словаў у кожнай частцы й падае практычную транскрыпцыю беларускіх і ангельскіх словаў. Нягледзячы на некаторыя істотныя хібы й памылкі слоўніка, трэба вітаць ягонае зьяўленьне — упершыню на слоўнікавай паліцы ў сусьветных кнігарнях наша мова заняла даўно належнае ёй мейсца.

**С. К.**

## НОВЫ БЕЛАРУСКІ ДОКТАР



*Міхась Бурдзь з бацькамі*

У кастрычніку 1990 году Міхась Бурдзь (BA, BSW, MA), сын выдатнага беларускага спарцмэна Паўлы Бурдзя, абараніў пры Унівэрсытэце Манітоба (Канада) дысэртацыю на тэму "Longitudinal Study on the Impact of Nursing Home Respite on Care Giver and Patient" і здабыў навуковую ступень доктара Філязофіі з галіны псыхалёгіі.

Др. Міхась Бурдзь аўтар артыкулаў "Impact of Nursing Home" (1986), "Psychology and Aging" (1988), друкаваных у часапісе "American Journal of Mental Deficiency", працуе цяпер як псыхоляг у Дзіцячай Кляніцы Віннепэгу — The Child Guidance Clinic of Winnipeg.

*Каардынацыйны Камітэт Беларусаў* Канады вітае д-ра Міхася Бурдзя із здабыцьцём навуковай ступені доктара філязофіі й жадае яму далейшых посьпехаў у навуковай ды прафэсыйнай працы. З асягненьнямі вітаем й ягоных бацькоў спадарства Ірэну й Паўлу Бурдзяў. Жадаем усёй сям'і добрага здароў'я й памыснасьці ў жыцьці.

**Р. Жук-Грышкевіч**

## СЬВЯТЫНІ БЕРАСЬЦЕЙШЧЫНЫ

За апошнія 2½ гады ў Берасьцейскай вобл. адкрыта 67 праваслаўных цэркваў, 12 каталіцкіх. Будуюцца і рэстаўруюцца 25 маліто́ўных дамоў. Значная частка будаўніцтва праводзіцца за грамадзкія сродкі.

## З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

**Супрацоўнікі Браслаўскага Гісторыка-краязнаўчага Музэю (Браслаў).** Зь цікавасьцю прачыталі некалькі нумароў Вашай газэты. Нам вельмі спадабалася. Наш Музэй існуе усяго 3 гады — праца толькі пачынаецца. У вашай газэце шмат матар'ялу, які ў нейкай меры аблягчае нашую працу.

Каб падпісацца на вашую газэту — патрэбныя валютныя сродкі, якіх у нас няма. Ёсьць, праўда, магчымасьць набываць газэту ў Менску, але на яе цяжка натрапіць, ды й мы ня часта там маем магчымасьць быць. Можа Вы нам неяк паспрыяеце?

Яшчэ адна тэма, якая нас хвалюе — пошукі землякоў, выхадцаў з Браслаўшчыны. Па сьціплых вестках да нас даходзіць, што ёсьць на эміграцыі і культурныя дзеячы й навукоўцы якія паходзяць з Браслаўшчыны. Хацелі-б навязаць зь імі кантакты. Наш адрас:

211970 Беларусь
Віцебская вобл. г. Браслаў
вул. Энгельса 39
Музэй

Ад рэдакцыі: Газэту будзем Вам высылаць.

---

**Уладзімер Дзехцярук (Кохтла-Ярве, Эстонія).** Зьвяртаемся да Вас ад беларусаў з эстонскага гораду Кохтла-Ярве, якія аб'ядналіся й утварылі Беларуска-Эстонскае Зямляцтва. Мы вельмі хацелі-б атрымліваць і чытаць вашую газэту «Беларус». Яна вельмі дапаможа нам у знаёмстве з Вашым жыцьцём, а гэтаксама ў падрыхтоўцы радыёпраграмаў, якія мы рэгулярна даем у эфір для беларусаў Эстоніі. У адказ на гэта мы маглі-б даваць вам інфармацыю аб жыцьці беларусаў у Эстоніі.

Ад рэдакцыі: Дзякуем за зацікаўленьне «Беларусам». Газэта будзе вам рэгулярна высылацца. Будзем удзячныя за інфармацыю аб вашым жыцьці.

---

**Ян Барысевіч (Аўстралія).** Мой сын цікавіцца гісторыяй Беларусі, але толькі па-ангельску. Я хацеў-бы дастаць недзе гісторыю Беларусі ад пачатку беларускіх плямён. Калі ласка парайце дзе гэткую кніжку можна купіць.

Ад рэдакцыі: Сп. Барысевіч, ліст Ваш перадалі у Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

---

**Вітаўт Мартыненка (Менск).** Зь цікавасьцяй чытаю кожны Ваш нумар. І вось нядаўна атрымаў кастрычніцкі (№ 388, 1991). Разам з вамі радуюся, што наш родны бел-чырвоны-белы сьцяг лунае ўжо ня толькі на нефармальных мітынгах, але цяпер і пры Беларускім прадстаўніцтве ААН, ды гэтаксама й над Домам ураду.

З вашых допісаў найбольш цікавыя, асабіста для мяне, матар'ялы з амэрыканскага друку пра Беларусь, аб жыцьці беларускай дыяспары ў сьвеце, хроніка культурнага жыцьця, гэтак званая «сьвецкая хроніка» (прыкладам, пра вясельле Сяржука Сокалава-Воюша і Ганны Бартуль).

Шматлікія інфармацыі, атрыманыя з «Беларуса», скарыстоўваю ў сваёй журналістычнай працы...

---

**Алена Таболіч (Гайнаўка).** Раней ніколі ня бачыла вашай газэты, але калі прыехала зь Менску працаваць у Гайнаўскім беларускім ліцэі, дык перачытваю кожны нумар, які нам дасылаюць.

Хачу напісаць вам пра ліцэй. Ліцэй адкрыўся 47 гадоў таму назад. Вучыцца ў ім цяпер каля 300 вучняў з Гайнаўкі і бліжэйшых вёсак. У ліцэі выкладаецца другі год і ангельская мова, якую выкладаю я. Раней працавала ў Менскім інстытуце замежных моваў. З гонарам магу сказаць, што беларусы вельмі здольныя да моваў. Моладзь ахвотна вывучае ангельскую мову, любяць сьпяваць беларускія й ангельскія песьні, вучыць вершыкі. Але ў Ліцэі мала падручнікаў, амаль няма слоўнікаў і анічога пра ЗША па-ангельску.

Было-б вельмі добра, каб хто небудзь зь беларусаў дапамог беларускім дзяцям з Гайнаўкі. Калі хтось будзе ехаць на Беласточчыну, ці не змаглі-б прывесьці нам што небудзь для выкладаньня ангельскай мовы — песьні, вершыкі, гульні, размоўнікі, слоўнічкі ці матар'ял пра ЗША й Канаду.

Адрас Ліцэю:
17-200 Hajnówka
woj. Białystok
ue. Pilsudskiego 5
Polska

---

**Андрусь Адамчык (Берасьце).** З Клюбу Аматараў Пэрыёдыкі. Сёньня на Беларусі амаль нічога ня ведаюць пра жыцьцё беларускіх дзяцей на эміграцыі. Калі паміж моладзьдзю Беларусі й замежжам яшчэ існуюць нейкія кантакты, дык у дзяцей іх зусім няма. Мы просім Вас дасылаць нам інфармацыю пра беларускіх дзяцей на эміграцыі, у прыватнасьці ў ЗША. Нам будзе цікава ўсё: і ў якіх школах вучацца дзеці, і ў якія гульні гуляюць, і ці існуюць дзіцячыя арганізацыі й супалкі, і г.д. Вельмі будзе добра, калі інфармацыя падмацуецца наглядным матар'ялам (каляровыя слайды, фільмы).

Вашую інфармацыю дасылаць на адрас:

224019 Берасьце
вул. Валгаградзкая, 6-1
Адамчык Андрусь
Будзем вам вельмі ўдзячныя.

---

**... ВІДЭАФІЛЬМЫ.** *Працяг з б. 5*

**«Легенда пра замак Радзівілаў»** (белар.). Фільм аб старажытным горадзе Нясвіжы і яго галоўнай славутасьці — выдатным замкавым ансамблі былых князёў Радзівілаў. 10 хвіл.

**«Хроніка мірскага замка»** (белар.). Фільм аб самым старажытным на Беларусі замку-крэпасьці ў Міры. XIII стагоддзе. 10 хвіл.

**«Мой дом — мая крэпасьць»** (белар.). Фільм пра своеасаблівы архітэктурны помнік, палац XIX стагоддзя ў пасёлку Косава. 10 хвіл.

Рэжысёр трох фільмаў па архітэктуры М. Мялешка.

**«Заўчасьце»** (на белар. і польск. мовах). Дакументальны фільм аб агульнай славянскай культуры XVIII стагоддзя, калі фаварыт Екацярыны Другой кароль Станіслаў Аўгуст уладарыў на Рэчы Паспалітай, а значная частка Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага ўваходзіла ў гэту фэдэратыўную дзяржаву. 45 хвіл.

Аўтары сцэнарыя Ул. Гілеп, Ю. Цьвяткоў. Рэжысёр Ю. Цьвяткоў.

**«Успамін»** (на белар. мове). Пісьменьнік Уладзімір Караткевіч вядомы ў сьвеце як аўтар, які раскрывае нацыянальныя рысы характару беларусаў. Яго творы перакладзеныя на многія мовы свету, ён аўтар сцэнарыяў фільмаў «Дзікае паляваньне караля Стаха», «Чорны замак Альшанскі», «Маці Урагану». 50 хвіл.

Аўтар сцэнарыя Р. Барадулін. Рэжысёр Ю. Цьвяткоў.

**«Палескі Карагод»** (без дыкт. тэксту). Фільм пра сьвята аўтэнтычнага фальклору на Прыпяці, пра народны кірмаш, дзе адбываюцца не толькі таргі, але і пануе ўсеагульнае радасьць. 40 хвіл.

Рэжысёр В. Каралёў.

**«Купалле на Радагошчы»** (на белар. мове). Народнае сьвята, якое вядзе свае вытокі ад язычніцтва, але захавалася да нашых дзён, набыўшы новае жыцьцё. 30 хвіл.

Аўтар сцэнарыя Н. Загорская. Рэжысёр В. Каралёў.

220600, г. Мінск, вул. К. Маркса, 12-а, «Беларускі відэацэнтр». Тэл. 27-11-81, (80172) 27-25-32.

## ЛЯГЕР ДЛЯ МОЛАДЗІ НАД НАРАЧЧУ

Зьвятаемся да шчырых прыхільнікаў беларушчыны на эміграцыі з запрашэньнем прыслаць дзяцей на Беларусь.

З 26 траўня да 24 чэрвеня на Нарачы, гэтым маляўнічым і экалагічна чыстым кутку Беларусі, зьбяруцца лаўрэаты фэстывалю «Мой родны кут, як ты мне мілы!...», каб праз песьні, музыку, танцы, фальклёр, народныя звычаі і абрады, прыкладное і выяўленчае мастацтва прыхінуць дзяцей да сваіх нацыянальных вытокаў. Менавіта да ўсяго гэтага здолее далучыцца і беларуска-амерыканская моладзь. Культурна-нацыянальнаму выхаваньню паслужаць і вандроўкі па Беларусі.

Шчыра запрашаем 20 дзяцей школьнага ўзросту да 18 гадоў і 2-х дарослых з імі. Усе выдаткі на пражыцьцё і культурную праграму бярэм на сябе. Ваш бок забясьпечвае набыцьцё і аплату білетаў да Менску і назад.

Просім выслаць сьпіс на афармленьне запросінаў.

Наш факс 0172-23-87-51 ці 27-88-32.

Намеснік міністра адукацыі
Рэспублікі Беларусь
Георгій Бутрым

Старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына»
Яўген Лецка

«Сьв. памяці Павал Машчонскі, народжаны ў вёсцы Райца Наваградчына, адыйшоў ў вечнасьць 29.2.1992 г. у веку 79 гадоў.
Нябожчык быў актыўным і ахярным сябрам беларускага жыцьця ў Канадзе. Пакінуў дачку Лілю і 2-х унукаў: Джэсона і Міхася.
Няхай вольная канадыйская зямля дасьць Табе, дарагі сябра, супакой і вечнае адпачываньне

**Да спатканьня, Твае сябры**

## СЬВ. ПАМЯЦІ ЮРКА ГАСЬЦЕЕЎ



27-га сьнежаня мінулага году, пасьля цяжкога 5-ці гадовага змаганьня з ракам горла памер у Кліўлендзе сьв. памяці Юры Гасьцееў.

Нарадзіўся 4-га ліпеня 1924 году у Клецку, у Беларусі. У 1942-ім годзе пакінуў сваю акупанавую Бацькаўшчыну і так ніколі й не пабачыў яе больш.

Сьв. памяці Ю. Гасьцееў жыў колькі гадоў у Францыі, а ў 1957-ым годзе эміграваў у Злучаныя Штаты і пасяліўя ў Кліўлендзе, Огаё. Працаваў у Ajax Manufacturing, дзе з часам дарабіўся да формана. У 1986-м годзе выйшаў на пэнсыю. Заўсёды быў актыўным у грамадзкім і царкоўным жыцьці Беларускай калёніі ў Кліўлендзе. Быў дзейным старшынём Кліўлендскага аддзелу БАЗА і аддзелу Беларускіх Вэтэранаў.

Ён ня мог даць веры якія зьмены адбыліся на Беларусі і ніколі й ня марыў, што дажыве каб пабачыць сваю краіну незалежнай. «Юры Гасьцееў» — піша Клілендзкая газэта The Plain Dealer — «быў вельмі шчасьлівы, што сьвет нарэшце зьвярнуў увагу на яго бацькаўшчыну Беларусь, у сувязі з сучаснымі падзеямі й развалам Савецкага Саюзу, і заўсёды ганарыўся сваёй краінай».

Пакінуў пакойны у глыбокім суме жонку Сьцепаніду, сыноў Андрэя й Міхася, 8 унукаў і 2 праўнукаў. Пахаваны на Беларускай сэкцыі Рывэрсайдскага могільніка ў Кліўлендзе.

## СЬВ. ПАМЯЦІ АНТОН КАНАНЧУК



Нарадзіўся 20-га ліпеня 1914 году ў вёсцы Патока, каля Беластоку. Служыў ў польскім войску, і ў 1939 годзе, калі пачалася вайна зь немцамі, быў змабілізаваны, а пазьней папаў у нямецкі палон. Па вайне быў узяты ў Заходнюю Нямеччыну й затрымаўся ў польскім лягеры Гогэнфэльц, каля Рэгенсбургу. Там ён пазнаёміўся з дачкой Андрэя й Тэадоры Пракаповічаў, Тацьцянай і ў 1945-ым годзе яны пажаніліся. Пазьней пераехалі ў беларускі лягер Віньдзішбэргэрдорф, каля Каму а затым у Розэнгайм, каля Мюнхэну. У 1951-ым годзе зь сям'ёю жонкі, маткай Тэадорай і братам Адамам эмігравалі ў Амэрыку. Жылі спачатку ў Нью-Ёрку, а затым хутка перабраліся настала ў Кліўленд, Огаё.

У Кліўлендзе ў гэтым часе засноўвалася Беларуская калёнія і сям'я гэтая былі першымі заснавальнікамі яе. Дачка Кананчукоў, Галіна нарадзілася яшчэ ў Нямеччыне, а сын Андрэй у Амэрыцы.

Нябожчык быў працавітым, грамадзкім, вясёлым, любіў быць у кампаніі. Быў добрам бацькам і дбаў аб сям'і. Шмат працы ўлажыў ён у царкоўныя справы. За часоў яго старшынства ў Парафіяльнай Радзе, быў куплены дом з пляцам ды шмат працаваў пры парафіяльным доме, а пазьней пры разбудове Беларускага Грамадзкага Цэнтру «Полацак». Належыў да Аддзелу БАЗА, Беларускіх вэтэранаў, прыймаў актыўны ўдзел у розных імпрэзах калёніі.

Пайшоўшы на пэнсію, нябожчык многа не пацешыўся, бо захварэў на цукрыцу, і гэтак на працягу трох гадоў паволі слабеў, і нейкі час ня мог хадзіць

Хоць дрэнна чуўся, але яшчэ ў 1989-ым годзе адведаў свой родны кут на Беласточчыне, пабачыў сваю сястру, братоў і вельмі гэтым цешыўся.

Адыйшоў Антон Кананчук на вечны супачынак 13-га красавіка 1991 г. Пахавіны былі адпраўленыя ў царкве Жыровіцкае Божае Маці й пахаваны быў на Рывэрсайд магільніку ў беларускай сэкцыі. Пакінуў па сабе жонку Тацьцяну, дачку, сына, швагра, а на Беласточчыне, сястру й брата. Няхай яму будзе лёгкая амэрыканская зямелька, ды хай будуць мілыя ўспаміны аб роднай Бацькаўшчыне.

Глыбокія спачуваньні складаем дзецям, а асабліва жонцы, якая была шчырай, сумланнай і даглядала яго да канца ягонага жыцьця і супрацоўнічала зь ім і з намі у рэлігійным і грамадзкім жыцьці.

**Сябры**

## СЬВ. ПАМЯЦІ АЛЯКСАНДАР ПАТАПЕНКА



Нарадзіўся 11-га чэрвеня 1923 году ў вёсцы Лялеўшчына, каля Віцебску ад бацькоў Паўла й Васільлі. Паходзіў зь вялікай сям'і — меў трох братоў і тры сястры. Пасьля вайны працаваў мэханікам, як цывільны, пры савецкіх вайсковых частках у Ушгарадзе, у Вугоршчыне. У 1948-ым годзе ўдалося яму перайсьці граніцу й затрымаўся ў Заходняй Нямеччыне ў Беларускім лягэры Бакнангу, каля Штутгарту. Тут ён пазнаёміўся з Марыяй, дачкой Васіля й Юлі Палонскіх і ў 1950-ым годзе яны пажаніліся, а ў 1955-ым годзе эмігравалі ў ЗША й пасяліліся настала ў Кліўлендзе, Огаё.

Пакойны хутка ўладзіўся на працу па сваёй спецыяльнасьці, як мэханік, а пазьней, адзін зь першых беларусаў, залажыў сваё прадпрыемства — гараж і праву машыны.

Разам з сям'ёй ўступілі ў беларускую праваслаўную царкву й далучыліся да жыцьця беларускае калёніі ў Кліўлендзе. Пакойны Аляксандар быў працавіты, сяброўскі, добры бацька, стараўся вывучыць сыноў. Быў шчырым беларусам.

Пасьля цяжкой апэрацыі на сэрца, якая яму не ўдалася, паслабеў і мусіў закрыць сваё прадпрыёмства. У 1981-ым годзе, хоць ужо слаба чуўся, адведаў сваіх братоў, сёстраў і сваякоў на бацькаўшчыне і вельмі быў задаволены з сустрэчы. Вельмі цікавіўся нацыянальнымі падзеямі да канца жыцьця, цешыўся, што гэтыя падзеі прывялі да вызваленьня Беларусі.

Нябожчык Аляксандар, пасьля амаль 10-ці гадоў хваробы, адыйшоў на той сьвет 31-га травеня 1991 году і быў пахаваны, зь лічным удзелам сяброў калёніі, на Рывэрсайд магільніку, на беларускай сэкцыі. Пакінуў жонку Марыю, сыноў Анатоля, Юрку й Віктара, трох унукаў, сёстраў і братоў на Бацькаўшчыне.

Хай Яму будзе лёгкая амэрыканская зямелька й хай сьняцца нівы вольнай Беларусі.

Глыбокае спачуваньне складаем сям'і, а асабліва Марыі, нашай супрацоўніцы ў царкоўным і грамадзкім жыцьці калёніі, якая была шчырая й верная жонка да канца ягонага жыцьця.

**Сябры**

## СЬВ. ПАМЯЦІ АЛЯКСЕЙ СЯНЬКЕВІЧ



Пасьля кароткае хваробы 12 сьнежня 1991 году памёр сьв. памяці Аляксей Сянькевіч, які быў ведамым дзейным беларусам у міжваенным часе ў Заходняй Беларусі і ў часе Другое сусьветнае вайны, а таксама на эміграцыі. У канцы вайны апынуўся у Нямеччыне, а пасьля эміграваў у Амэрыку. Нарадзіўся А. Сянькевіч 15 лістапада 1904 года ў мястэчку Новы Сьвержань. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт Рывэр, Н. Дж. Пакінуў па сабе ў суме жонку Клаўдзію, сыноў Славіка і Аўгена, іх жонак і унукаў.

Хай яму будзе пухам гэтая амэрыканская зямля. Вечная яму памяць.

### ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: Ч. Найдзюк, А. Маркевіч, Ю. Станкевіч, Б. Даніловіч, Раіса Жук-Грышкевіч, Я. Юхнавец, Ванда Махнач, М. Казьлякоўскі, Ю. Кіпель, А. Кіпель.

## АХВЯРЫ НА ФОНД БІНІМу

*Адзьдзел БАЗА Каліфорнія (стараньнем сп-ні К. Вініцкай, сакратара)*

| | |
|---|---|
| Я. і К. Вініцкія | 250.00 |
| Л. Вініцкі | 100.00 |
| К. Вортс (другі раз) | 50.00 |
| П. Ганэцкі | 200.00 |
| Mr. & Mrs. D. Obershaw | 50.00 |
| Mr. & Mrs. F. Howard | 50.00 |
| Разам | 700.00 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА«

*Ад нашага прадстаўніка Р. Шайпака з Аўстраліі*

| | |
|---|---|
| М. Скабей | Аўстр. дал. 85.00 |
| О. і А. Кукель | 50.00 |
| Р. Шайпак | 50.00 |
| А. Груша | 60.00 |
| З. Кадняк | 50.00 |
| Я. Барысевіч | 107.00 |
| Ф. Лашук | 50.00 |
| У. Сідлярэвіч | 40.00 |
| В. Каралюк | 35.00 |
| П. Гуз | 30.00 |
| Я. Валянцёнак | 35.00 |
| Я. Яшчэнка | 30.00 |
| М. Нікан | 35.00 |
| М. Швэд | 30.00 |
| Л. Яцэвіч | 45.00 |
| Н. Сікорская | 30.00 |
| С. Каранеўскі | 125.00 |
| М. Шэка | 5.00 |
| Н. Сэсэтка | 30.00 |
| За праданыя паасобнікі | 48.00 |
| Усяго аўстр. дал. | 970.00 |
| Ам. дал. | 710.53 |

*Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдзеннай Аўстраліі*

| | |
|---|---|
| К. Чабатар | 10.00 |
| А. Бразоўскі | 50.00 |
| М. Мароз | 50.00 |
| А. Мароз | 30.00 |
| Е. Домброўскі | 25.00 |
| В. Ласкевіў | 25.00 |
| Е. Ніжнік | 30.00 |
| М. Раецкі | 40.00 |
| М. Раецкі, малодшы | 70.00 |
| Беларускае Аб'еднаньне | 50.00 |
| Усяго | ам. дал. 257.57 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча*

| | |
|---|---|
| В. Кажан | 80.00 |
| М. Кухарчык | 50.00 |
| П. Кажура | 50.00 |
| М. Русак | 30.00 |
| Я. Місюль | 25.00 |
| Н. Орса | 25.00 |
| а. В. Андрэюк | 25.00 |
| Г. Бахар | 25.00 |
| А. Балкоўскі | 25.00 |
| Р. Галяк | 25.00 |
| Я. Яновіч | 25.00 |
| Г. Гэльвіг | 25.00 |
| В. Букатка | 25.00 |
| Я. Шыбут | 25.00 |
| М. Казьлякоўскі | 25.00 |
| В. Ярашкевіч | 20.00 |
| Усяго | 505.00 |

*Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю.*

| | |
|---|---|
| А. Кіпель | ам. дал. 200.00 |
| К. Мерляк | 100.00 |
| Ф. Сак | 55.00 |
| М. і В. Махнач | 50.00 |
| І. Пануцэвіч | 50.00 |
| Л. і А. Бяленіс | 50.00 |
| Г. Сенькевіч | 50.00 |
| М. Каленік | 50.00 |
| В. Рамук | 50.00 |
| П. і Л. Нягода | 30.00 |
| М. Кавыль | 25.00 |
| І. Кахаsucceeded | 40.00 |
| Усяго | 750.00 |

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі — Бр. Фунт. 100.00